*Л. Я. КЛІМУЦЬ*

# САРМАЦКАЯ ІДЭАЛОГІЯ НА БЕЛАРУСКІХ ЗЕМЛЯХ РЭЧЫ ПАСПАЛІТАЙ

Рассматривается функционирование сарматской идеологии на белорусских землях Речи Посполитой, проанализированы ее характерные особенности. Дается краткая характеристика наиболее отличительных аспектов этой идеологии в белорусском историческом контексте.

The article deals with the manifestation of Sarmatian ideology in the Belarusian lands of the Polish-Lithuanian Commonwealth; the attention is drawn to its characteristic traits. The brief analysis of the exemplary aspects of the ideology is given.

Сармацкая ідэалогія адыгрывала надзвычай важную ролю ў функцыянаванні грамадскага, палітычнага і культурнага жыцця Рэчы Паспалітай. Асноўным яе пастулатам было паходжанне шляхецкага саслоўя ад племені сарматаў, што давала гэтаму саслоўю права на выключнае становішча ў дзяржаве. Але ці былі свае асаблівасці ў гэтай ідэалогіі ў дзвюх частках Рэчы Паспалітай? У дадзеным артыкуле якраз разглядаецца яе спецыфіка на тэрыторыі ВКЛ.

Міф аб сармацкім паходжанні ахопліваў усіх прадстаўнікоў знаці Рэчы Паспалітай, нягледзячы на іх этнічную прыналежнасць. У XVI ст. ён не браў у разлік і рэлігію. У шматэтнічнай дзяржаве, дзе знаць складалася з прадстаўнікоў розных канфесій, такая ідэалогія адпавядала самому ладу жыцця і адносінам да суседзяў і суайчыннікаў. Калі Польшчу можна было ўяўляць як апошні аплот каталіцызму, то ВКЛ не падлягае такому азначэнню. Гэта традыцыйна была шматканфесійная краіна. Хоць праваслаўная царква не мела такога моцнага ўплыву ў XVII ст., нельга забывацца, што некаторыя магнаты былі праваслаўнымі. Да таго ж уніяцкая царква таксама заваёўвае моцныя пазіцыі. «У адрозненне ад Кароны, дзе на працягу [XVII] стагоддзя прыйшлі ў заняпад праваслаўныя цэрквы і зборы, у Вялікім Княстве Літоўскім яны знайшлі свае месца ў сістэме сінкрэтычнай мадэлі культуры»[1]. Аднак ідэя аховы веры праяўляецца і сярод насельніцтва ВКЛ, як сведчаць апісанні рыцарскіх подзвігаў: «Так сваёй вернаю службаю сваёму гаспадару, вялікаму каралю Жыгімонту, радасць прынёс, а самае галоўнае – царкву Божую хрысціянскую і многіх мужчын і жанчын ад маскоўскага гвалту абараніў»[2].

Неабходна адзначыць, што не ўсе прадстаўнікі ВКЛ згаджаліся з сармацкім міфам пра паходжанне шляхты. Войцэх Каяловіч, які пісаў на лацінскай мове, у XVII ст. падкрэсліваў лацінскі радавод шляхты ВКЛ. М. Тапольска бачыць у гэтым праяву сепарацыйных тэндэнцый, якія адзначаліся ў беларуска-літоўскай шляхты, і яе імкненне да незалежнасці ад кароны[3].

Сармацкі міф у ВКЛ у сваіх праявах у многім супадаў з тымі характарыстыкамі, якія ён меў у Польшчы. Назіраецца адданасць рэлігійнаму рытуалу і апантанасць у яго выкананні. Шляхецкія мемуары даюць багатыя прыклады такой рэлігійнасці, якая, здаецца, з'яўляецца рэлігійнасцю напаказ,

нечым накшталт шоу; аднак у гэтым сэнсе яна якраз добра ўпісваецца ў сармацкі менталітэт. У той жа час няма падстаў сумнявацца ў шчырасці пачуццяў гэтых людзей у любых праявах іх матэрыяльнага і духоўнага жыцця. Празмерная апантанасць у рэлігійных справах была натуральным сведчаннем іх асаблівага становішча ў грамадстве. Ірацыянальнасць рэлігійных пачуццяў шляхты таксама вызначала іх свядомасць.

Аднак сармацкі міф у ВКЛ не меў такой моцнай каталіцкай асновы. Напрыклад, праваслаўныя магнаты таксама заказвалі творы сармацкага мастацтва. Гэта даказвае, што сарматызм быў сапраўды ўсеабдымнай ідэалогіяй. Мікалай Радзівіл Сіротка пасля пераходу з кальвінізму ў каталіцтва дапамагаў матэрыяльна ў пабудове праваслаўнай царквы, а ў 1582 г. выдаў фундуш на ўтрыманне праваслаўнага свяшчэнніка[4]. Праваслаўныя цэрквы і манастыры фундавалі Багуслаў і Януш Радзівілы, пра што больш падрабязна можна прачытаць у даследчыкаў мецэнацтва[5]. Дакументы сведчаць, што і іншыя канфесіі карысталіся пратэкцыяй магнатаў[6] і караля[7].

Для сармацкай шляхты ВКЛ бліжэй больш характэрнае для заходнееўрапейскага рыцарства ўспрыняцце хрысціянскіх ідэй. Евангельская пропаведзь любові і ўсеагульнай гармоніі застанецца толькі словамі, калі абаронца-рыцар не падтрымае яе сілай сваёй зброі. Размова ідзе не аб абароне канкрэтнай канфесіі, а аб абароне хрысціянскіх ідэй і дабра ўвогуле. Сармацкая шляхта біблейскія словы «меч духоўны» ўспрымала зусім канкрэтна.

Культура беларускіх зямель эпохі барока складвалася ва ўмовах поліэтнічнай, поліканфесійнай дзяржавы. Гэта накладвала свой адбітак як на рэлігійную свядомасць жыхароў ВКЛ, так і на сакральнае мастацтва гэтых тэрыторый. Многія даследчыкі адзначаюць талерантнасць рэлігійнага жыцця ВКЛ. Самімі жыхарамі краіны талерантнасць успрымалася як натуральная рэч, якая адрознівае іх дзяржаву ў лепшы бок ад іншых і нават ад суседняй Польшчы. Такая думка неаднойчы гучыць у дзённіку Ф. Еўлашоўскага, калі ён гаворыць пра сяброўскія адносіны паміж прадстаўнікамі розных канфесій[8].

Трэба таксама ўлічваць той факт, што падзел на канфесіі не заўсёды дакладна супадаў з этнічным ці сацыяльным падзелам грамадства. Так, напрыклад, не ўся вярхушка шляхты была каталіцкай у XVII ст., не ўсе сяляне былі праваслаўнымі ці ўніятамі. Суіснаванне канфесій і культур вяло да дыялогу паміж імі, да ўзаемаўплываў, якія адбіваліся і на ментальнасці прадстаўнікоў розных канфесій і саслоўяў. Тое ж самае можна сказаць у дачыненні да ўспрыняцця ідэалогіі на беларускіх землях Рэчы Паспалітай. Яна заўсёды набывала нейкія адметныя рысы, як гэта адбылося і з рэлігійнай асновай сарматызму. На землях ВКЛ, у адрозненне ад Польшчы, да канца XVII ст. больш важным з'яўляўся сацыяльны, чым рэлігійны, аспект гэтай ідэалогіі. Адданасць саслоўю не асацыіравалася з прыналежнасцю да адзінай для гэтага саслоўя канфесіі. Толькі з канца XVII ст. на беларускіх землях моцна пачынаюць выступаць на першы план рэлігійныя моманты.

Вялікае значэнне ў сармацкай ідэалогіі набывае вайсковы ідэал. Шляхта ўспрымала сябе перш за ўсё як воінаў. Нездарма такая вялікая колькасць іх дзённікаў і ўспамінаў была прысвечана іх асабістаму ўдзелу ў ваенных кампаніях. Магнаты фактычна ўтрымоўвалі ўласныя арміі, напрыклад, Геранім Радзівіл «трымаў рэгулярнага войска шэсць тысяч living зброі, кавалерыю і пяхоту, старшых афіцэраў называў генераламі, палкоўнікамі, маёрамі»[9]. Уласная армія падкрэслівала не толькі высокі статус у грамадстве, але і адданасць вайсковай справе.

Шляхта ВКЛ успрыняла заходнееўрапейскую рыцарскую этыку і перапрацавала яе на свой манер, дадаўшы да яе непаўторны сармацкі каларыт. Рыцарскія ідэалы роўнасці і ўзаемадапамогі былі блізкія шляхецкаму светапогляду, а нарматыўны комплекс паводзін увогуле адпавядаў сармацкай мадэлі, напрыклад, падтрымка царквы, імкненне да самапаказу. На тэрыторыі ВКЛ аб'ядноўваецца і ранні рыцарскі дух часоў Сярэднявечча, і выхаваўчыя ідэі часоў Адраджэння. Як і ў еўрапейскім рыцарстве, падкрэсліваецца ідэя неабходнасці за свае сродкі забяспечваць сябе і сваіх падданых усім неабходным для бою. А прыналежнасць да рыцарскага стану накладвае і адпаведныя сацыяльныя абавязкі. Для знакамітага воіна натуральным было мець не проста якасныя, але багатыя і прыгожыя даспехі, якія станавіліся складнікамі калекцый і якімі з гордасцю выхваляліся перад гасцямі.

Сярод шляхты ВКЛ доўгі час заставалася ўплывовай рыцарская ідэя, прыкладам чаму могуць быць паводзіны Багуслава Радзівіла, які, ваюючы на баку Карла X, не ўдзельнічаў у бітвах супраць польскага караля. Сармацкая адданасць традыцыі і павага да маральных якасцей воіна-рыцара кіравалі яго дзеяннямі: «Кароль шведскі... патрабаваў... каб левым крылом у яго войску камандаваў, але я не хацеў, сказаўшы смела, што там, дзе мой кароль, зброі супраць яго ўжываць не буду»[10].

Але ў той жа час уласнае войска сімвалізавала шляхецкую незалежнасць і права шляхты кінуць выклік каралю, што адчуваецца ў словах Гераніма Радзівіла: «Міліцыя ў розным гатунку, колькасцю якой хіба што й манарха перавышу, як і належным парадкам, дысцыплінаю ды экзэрцыцыямі. Артылерыя, дык ведаю, што й саскай роўная, а калі б знайшлася лепшая, чакаю – няхай хто яе мне пакажа, дык я й сам яму за пушкара служыць бы не адмовіў»[11].

Нямцэвіч апісвае рэзідэнцыю свайго дзеда як сапраўднага сармата, адданага хрысціянству і вайсковай справе: «Віселі два партрэты караля Яна і яго жонкі, трэці партрэт – прашчура майго, Казіміра Нямцэвіча, вількамірскага стольніка, дзеда майго дзеда; ён быў паказаны на каленях, са складзенымі рукамі, у пунсовым плашчы: маліўся перад распяццем, што стаяла на століку. Адсюль дзверы вялі ў спальню майго дзеда. ...Над ложкам – шабля, панцыр і шлем, у якіх мой дзед звычайна вырушваў з хаты, бо належаў да сапраўднай панцырнай харугвы. Над галавой – абраз Маці Божай Чанстахоўскай. На паліцы... ляжалі наступныя кнігі: "Жыцці святых", "Казанні" Скаргі, Тацыт, Гараций, "Новыя Афіны", "Сто страў і вока", Каханоўскі, "Хронікі" Мехавіты і Бельскага»[12].

З развіццём сарматызму і мілітарызацыяй ідэалаў непасрэдна звязана і арыенталізацыя культуры і стылю жыцця вышэйшых і сярэдніх слаёў шляхты. З канца XVI ст. назіраецца ўсё большая зацікаўленасць шляхты ўсходнімі прыкладамі, асабліва ў знешнім выглядзе. Калі ў XVI ст. гэта цікавасць да ўсходніх матываў датычылася толькі асобных элементаў і не складала цэльнага светапогляду, то ў XVII ст. назіраецца ўжо тое, што можна назваць арыенталістычнай стылёвай плынню. Пры Стэфане Баторыі, які сам паходзіў з Трансільваніі, арыенталістычныя матывы натуральна ўзмацніліся. Спачатку гэта было проста модай, а затым і адной з праяў шляхецкага статусу.

Але арыенталізм у сармацкім разуменні – гэта не проста стылёвае запазычанне, а пышнасць і раскоша, якія адпавядаюць высокаму саслоўнаму становішчу чалавека. Для жыхароў Заходняй Еўропы раскошная вопратка і шыкоўныя рэзідэнцыі «польскіх паноў» атаясамліваліся з усходнімі густамі. Аксаміт, шоўк, шытыя золатам тканіны разам з дарагім футрам выкарыстоўваліся ў касцюме настолькі шырока, што нават турэцкага султана, які прымаў пасля Хоцінскай бітвы (1621) пасольства Ю. Збаражскага, уразіла аблічча дыпламатаў Рэчы Паспалітай[13]. Такі арыенталізаваны касцюм і раскошны выгляд былі адным з прадстаўнічых, рэпрэзентатыўных сродкаў, магчыма, нават справай палітычнай і справай гонару адначасова.

Разглядаючы арыенталістычныя тэндэнцыі, Б. Лазука адзначае, што своеасаблівы касцюм, які выпрацаваўся на тэрыторыі ВКЛ, быў сродкам падкрэслівання не толькі саслоўнай, але і нацыянальнай адметнасці: «...гэты варыянт касцюма ператварыўся для сярэдніх слаёў грамадства ў сведчанне пэўнай апазіцыі ў адносінах да каралеўскага двара, а ў вачах беларусаў, літоўцаў, украінцаў – у знак адрознення ад палякаў»[14]. Аўтар мае на ўвазе, што ў ВКЛ існавалі асаблівасці сармацкага касцюма, адметныя ад польскага. Больш за тое, пашырэнне заходнееўрапейскіх узораў пры Жыгімонце III Вазе разглядалася сармацкай шляхтай як небяспечная для шляхецкай вольнасці з'ява[15].

Гэты інтарэс да ўсходняй культуры, з аднаго боку, выцякае з натуральнай цікавасці да ўсяго экзатычнага, пышнага, якая была характэрнай для эпохі барока. З другога боку, тут трэба адзначыць яшчэ некалькі фактараў, якія ўплывалі на любоў да арыентальных матываў. Гэта магло быць звязана з асобай караля, як, напрыклад, у выпадку са Стэфанам Баторыем. Менавіта пры ім стаў папулярны кунтушовы строй, які так здзівіў і ўражваў прадстаўнікоў заходнееўрапейскіх двароў, калі яны назіралі за прыездам у сваю сталіцу пасольства Рэчы Паспалітай.

Тут мы маем выпадак узаемаўплываў, якія фарміруюць свядомасць. З аднаго боку, прадстаўнікі Рэчы Паспалітай для заходнееўрапейцаў былі прадстаўнікамі Усходу, які ў іх успрыняцці быў нейкім адзіным рэгіёнам, і гэтыя адносіны ў многім вызначалі стыль паводзін і адзення гэтых самых «прадстаўнікоў Усходу», з другога – многія пасольствы Рэчы Паспалітай апраналіся ў пышныя касцюмы на турэцкі ці персідскі лад менавіта для, так бы мовіць, псіхалагічнага ўздзеяння на супрацьлеглы бок. У 1515 г. у Вене Радзівілы зрабілі цэлы спектакль для заходніх уладароў, апрануўшы сваіх людзей у багатыя турэцкія і маскоўскія касцюмы, падкрэсліваючы гэтым і сваю ваяўнічасць, і сваё багацце, і сваё адрозненне ад жыхароў Заходняй Еўропы[16]. Арыенталізаваны касцюм для шляхціца, прыбыўшага ў Заходнюю Еўропу з Рэчы Паспалітай, быў сродкам сцвярджэння свайго «я» і адным з базісных фактараў, з дапамогай якога ён ідэнтыфікаваў сваю адметнасць і этнічную і дзяржаўную прыналежнасць.

Арыенталізм вельмі доўга захоўваўся на тэрыторыі Рэчы Паспалітай. Аднак узнікае пытанне: чаму шляхецкі строй і іншыя праявы матэрыяльнай культуры ў эпоху барока маюць такую моцную схільнасць да Усходу ў цэлым і такую цікавасць да ўсяго турэцкага ў прыватнасці? Калі ўспомніць, што ідэалогія сарматызму мела пад сабой у тым ліку і рэлігійную аснову, то гэта выглядае яшчэ больш недарэчным.

Здаецца слушнай думка аб тым, што сама ідэалогія сарматызму ўтрымлівае ў сабе гэту схільнасць да ўсходніх матываў. Сарматы былі ўсходнім па паходжанню народам, а воблік турэцкіх воінаў здаваўся вельмі адэкватным для такога народа, ва ўсялякім разе некаторыя рысы. Хутчэй за ўсё, любы ўсходні народ у вачах шляхты і Польшчы, і ВКЛ меў добра знаёмы ім воблік: паголеная галава, доўгі чуб, расшыты кунтуш. Для сармата натуральным было галоўнай характарыстыкай гістарычных змен лічыць пераемнасць і захаванне традыцый нават пры некаторай эвалюцыі. Таму тыя, хто

насяляў сармацкія землі ў старажытнасці, атаясамліваліся з сучаснымі прадстаўнікамі ўсходніх краін, у прыватнасці з татарамі і туркамі, а іх воблік праецыраваўся на воблік старажытных продкаў шляхты Рэчы Паспалітай, а затым і на саму шляхту. Да таго ж турэцкія воіны лічыліся аднымі з лепшых у свеце. У сармацкім успрыняцці турэцкі воін адначасова быў і грозным праціўнікам, перамагчы якога – вялікі гонар, і ідэалам салдата, які можа здзейсніць сапраўдны цуд на полі бою. Многія прадстаўнікі шляхты захапляліся і турэцкай зброяй, і ўменнем туркаў валодаць ёю, іх адданасцю камандзіру і апантанасцю ідэяй. Не мае значэння, што ў дадзеным выпадку гэта ідэя была мусульманская.

Да таго ж турэцкі касцюм у вачах шляхты сімвалізаваў ваенную перамогу, як быццам быў зняты ў палоннага ворага. Гэта ідэя яскрава гучыць у «Дыялогу» Клеменса Яніцкага[17]. Акрамя таго, досвед ваенных сутыкненняў дзяржаў Ягелонаўскай кааліцыі (ВКЛ, Польшча, Венгрыя) прымусіў іх шукаць новыя, больш прыстасаваныя да ўсходняй мадэлі сродкі вядзення вайны. Пэўная арыенталізацыя вайсковай манеры ў Венгрыі прасочваецца з сярэдзіны XV ст., у Польшчы – з канца XV ст.[18], не былі выключэннем і землі ВКЛ, якія заўсёды межавалі з прадстаўнікамі ўсходняй вайсковай традыцыі. З канца XV ст. усходні тэатр ваенных дзеянняў робіцца для ВКЛ асноўным[19]. Але неабходна адзначыць і тое, што частка грамадства негатыўна ставілася да турэцкай моды, якая з'явілася ў XVI ст., і гэта таксама яскрава гучыць у «Дыялогу» ў выглядзе крытыкі з вуснаў Ягайлы і здзеклівых жартаў яго блазна Станьчыка[20].

Такая поліканфесійная дзяржава, як ВКЛ, магчыма, з яшчэ большай лёгкасцю ўспрымала чужаземныя, не хрысціянскія ўплывы, чым тэрыторыя Кароны Польскай, дзе арыенталізм праяўляецца больш сціпла. Усходняя культура на тэрыторыі ВКЛ займала сваё асобнае месца. Яшчэ з часоў Вітаўта жыхары ВКЛ былі знаёмыя з мусульманскай культурай, яны штодзённа праходзілі побач з мячэццю на вуліцах свайго горада і, мабыць, па-суседску пераймалі характэрную для ўсходніх народаў схільнасць да раскошы, бліскучых упрыгожанняў і павагу і сапраўдную любоў да зброі, асабліва шаблі[21]. Нездарма нават у вачах палякаў, якія самі для Заходняй Еўропы былі ўвасабленнем варварскіх густаў у модзе і залішняй дэманстрацыі багацця, літвіны і іх уборы здаваліся надзвычай шыкоўнымі і нават непрыстойна дарагімі. Важна яшчэ адзначыць і той факт, што доўгае суіснаванне розных канфесій на тэрыторыі ВКЛ, незалежна ад іх месца ў дзяржаўнай іерархіі, выхоўвала своеасаблівы менталітэт, адметны лёгкім засвойваннем усяго, што здавалася прывабным, нягледзячы на яго паходжанне.

Акрамя таго, для барока як стылю (прычым усеабдымнага, які праяўляецца не толькі ў мастацтве, але і ў іншых сферах жыцця чалавека) характэрны дуалізм. Дуалізм як раўнапраўнае суіснаванне двух розных пачаткаў найбольш яскрава відавочны ў разнастайных відах мастацкай прадукцыі. Але паколькі ідэалогія сарматызму атрымала поўнае развіццё менавіта ў эпоху барока, яна таксама не магла пазбегнуць дуалізму. Таму ў сарматызме дзіўным чынам пераплятаюцца супрацьлеглыя ідэі і ўстаноўкі, напрыклад, адданасць хрысціянству спалучаецца з захапленнем і імітаваннем некаторых праяў нехрысціянскай культуры. Арыенталізацыя матэрыяльнай культуры Рэчы Паспалітай у цэлым і ВКЛ у прыватнасці і арыенталізацыя і мілітарызацыя шляхецкіх ідэалаў з'яўляюцца не выпадковай тэндэнцыяй, а вынікам натуральнага развіцця. У той жа час арыенталізацыя таксама натуральна вынікае з развіцця сарматызму з яго патрыятычна-ахоўнымі функцыямі і разумення шляхтай асаблівага становішча сваёй дзяржавы на мяжы з нехрысціянскім светам.

Такім чынам, пры тым, што сармацкая ідэалогія адыгрывала аб'яднаўчую ролю для дзвюх частак Рэчы Паспалітай і садзейнічала збліжэнню шляхецкага саслоўя, яна набыла спецыфічныя рысы ў працэсе свайго развіцця на беларускіх тэрыторыях. Асабліва гэта датычыцца рэлігійнага і культурнага жыцця, дзе адметнасць паміж дзвюма часткамі Рэчы Паспалітай найбольш адзначалася. Мадыфікацыя сармацкай шляхецкай ідэалогіі на ўсходніх землях дзяржавы стала вынікам дзейнасці розных фактараў, не апошняе месца сярод якіх займаюць гістарычны і геаграфічны.

1 Tomkiewicz W. Przełom renesansowy w świadomości wczesnego społeczeństwa polskiego // Renesans. Sztuka i ideologia. Warszawa, 1976. S. 12–22.

2 Старонкі рыцарскага эпасу // Беларускія летапісы і хронікі. Мінск, 1997. С. 167–177.

3 Гл.: Topolska M. B. Specyfika kultury umysłowej doby baroku w Wielkim Księstwie Litewskim // Kultura artystyczna Wielkiego Księstwa Litewskiego w epoce baroku. Warszawa, 1995. S. 18–34.

4 Гл.: Археографический сборник документов, относящийся к истории северо-западной Руси. Вильно, 1867. Т. 3. С. 123.

5 Гл.: Łempicki S. Opiekunowie kultury w Polsce. Lwów, 1938; Sajkowski A. Od Sierotki do Rybeńki. W kręgach Radziwiłłowskiego mecenatu. Poznań, 1965.

6 Гл.: Archiwum Główne Akt Dawnych (AGAD). Archiwum Radziwiłłów (AR). Dz. XV. T. 1. Plik 14. S. 6–8; AGAD. Archiwum Potockich z Łańcuta. Akta niesygnowane. Nr 701.

7 Гл.: Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (НГАБ). Ф. 1741. Воп. 1. Спр. 4. Л. 1333.

8 Гл.: Еўлашоўскі Ф. Дзённік // Старажытная беларуская літаратура: зборнік. Мінск, 2002. С. 349–389.

9 Kitowicz J. Opis obyczajów i zwyczajów za panowania Augusta III księdza Kitowicza // Obraz Polaków i Polski w XVIII wieku. Warszawa, 1985. Vol. 9. S. 377.

[10] Radziwiłł B. Autobiografia. Mode of access: http://miedzia.ch.pwr.wroc.pl/wolontarze/ksiazki/radziwil/radziwill_b_autobiografia.pdf. Date of access: 12.12.2007.

[11] Радзівіл Г. Ф. Рэчы, якімі годнага магу забавіць госця, што ў маім доме прабываць будзе, да якога ж часу – ласкавы памяркуе чытач // Спадчына. 2000. № 3. С. 118–141.

[12] Niemcewicz J. U. Pamiętniki czasów moich: W 2 t. Warszawa, 1957. T. 2. S. 11–12.

[13] Гл.: Хадыка А. Ю. Непаўторныя рысы: з гісторыі беларускага партрэта. Мінск, 1992. С. 75.

[14] Лазука Б. А. Беларускае барока. Гісторыка-тэарэтычныя праблемы стылю. Мінск, 2001. С. 84.

[15] Там жа.

[16] Гл.: Stryjkowski M. Kronika polska, litewska, żmudska i wszystkiej Rusi. Warszawa, 1846.

[17] Гл.: Janicki K. Dialog przeciw różnorodności i zmienności polskich strojów // Antologia Wileńska. Warszawa, 1996. T. I. S. 42–52.

[18] Гл.: Żygulski Z. Broń w Dawnej Polsce. Na tle uzbrojenia Europy i Bliskiego Wschodu. Warszawa, 1982.

[19] Гл.: Бохан Ю. М. Узбраенне войска ВКЛ другой паловы XIV – канца XVI ст. Мінск, 2002.

[20] Гл.: Janicki K. Op. cit.

[21] Гл.: Лазука Б. А. Указ. тв.

Паступіў у рэдакцыю 03.03.11.

*Лада Яраславаўна Клімуць* – кандыдат гістарычных навук, дацэнт кафедры ўсеагульнай гісторыі МДУ імя А. А. Куляшова.